ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і мастацтва

Выдаецца з 1932 г.
№ 38 (2564)
ПЯТНІЦА
17
верасня 1971 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ НА ШАСНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ

Цана 8 кап.



У Мінску працуе Усесаюзны злёт грамадскіх прапагандыстаў кнігі. На здымку Ул. Крука—група ўдзельнікаў злёту.
Інфармацыя пра першыя дні работы злёту—на стар. 2.

## У НУМАРЫ ЧЫТАЙЦЕ:

*Прозвішча кандыдата архітэктуры, намесніка галоўнага архітэктара горада Мінска Я. Заслаўскага вядома чытачам «Літаратуры і мастацтва». На старонках газеты ён не аднойчы выступаў з артыкуламі па праблемах горадабудаўніцтва.*

*Сёння пачынаем друкаваць цыкл яго артыкулаў, прысвечаны архітэктуры Мінска ў новай пяцігодцы. Я. Заслаўскі закранае праблемы жыллёвага будаўніцтва, росту прамысловых прадпрыемстваў, развіцця сталічнага цэнтра, абваднення горада і стварэння зон адпачынку, добраўпарадкавання і якасці будаўніцтва.*

# КРАСУЙ, МАЯ

## 1. МІКРАРАЁНЫ: ПЛАНІРОЎКА І ЖЫЛЛЁ

Я. ЗАСПАЎСКІ,

намеснік галоўнага архітэктара г. Мінска, кандыдат архітэктуры



ВОСЬМАЯ пяцігодка — важны этап у ажыццяўленні новага генеральнага плана Мінска, зацверджанага Саветам Міністраў рэспублікі ў сакавіку 1965 г. У поўнай адпаведнасці з гэтым планам забудоўваліся жылыя масівы сталіцы. Калі ў папярэдніх генеральных планах асноўнай структурнай ячэйкай жылой зоны быў квартал, а ў наступным — мікрараён, дык у апошнім генеральным плане —жылы раён. Па гэтым прынцыпе створаны Чыжоўка, Усход, Зялёны Луг, жылыя раёны па Ракаўскай шашы і іншыя. Архітэктары ў кароткі тэрмін сфарміравалі буйныя фрагменты горада. Больш гарманічна вырашаюцца функцыянальныя, эканамічныя і эстэтычныя задачы горадабудаўніцтва.

Чыжоўка. Масіў на 60 тысяч жыхароў. Забудова — па адзінай архітэктурна-планіровачнай задуме, у кампазіцыі якой важную ролю адыгрываюць прастора і зялёныя зоны. Вырашаныя ў адзіным ансамблі высотныя дамы і прадпрыемствы абслугі ператвораць Чыжоўку ў адзін з найбольш прыгожых і зручных раёнаў горада.

Раён Усход — наступны этап у развіцці архітэктурна-планіровачнай арганізацыі жылой забудовы. На аснове папярэдне праведзенага ўсесаюзнага конкурсу тут былі ўжыты новыя прыёмы арганізацыі забудовы — гмахі рознай канфігурацыі, вышыні і даўжыні. Тут яшчэ трэба завяршыць адказны ў горадабудаўнічых адносінах комплекс па фронце Ленінскага праспекта, які павінен утварыць парадны ўезд у беларускую сталіцу з боку Маскоўскай шашы.

У асноўным завершана забудова Зялёнага Луга-1 і Зялёнага Луга-2. Тут пабудовы апошніх гадоў выгадна адрозніваюцца ад першых. Асабліва яркі вынік дасягнуты ў заходняй частцы горада — у раёнах Ракаўскай шашы, вуліцы Адоеўскага. Хто не быў тут некалькі гадоў — не пазнае гэты раён.

У канцы мінулай пяцігодкі пачалася забудова буйнейшага мінскага масіва —Серабранкі, разлічанага на 140 тысяч жыхароў. Тут, як і ў раёне Усход, узводзяцца пераважна будынкі з павышанай колькасцю паверхаў. Гэты фрагмент горада знамянуе новы маштаб забудовы Мінска.

Непазнавальным стаў паўднёвы раён горада ў Курасоўшчыне. Актыўна забудоўвалася і паўднёва-ўсходняя частка сталіцы ў раёне вуліц Ангарскай і Алтайскай.

Пералічаныя раёны размешчаны на свабоднай перыферыйнай тэрыторыі. А ў мінулай пяцігодцы больш актыўна сталі рэканструявацца і жылыя масівы ў забудаванай частцы горада. Узяць, напрыклад, раён вуліцы Цнянскай. Вопыт рэканструкцыі гэтага раёна паказаў поўную мэтазгоднасць прынятага рашэння. Тут узнік вельмі зручны буйны жылы масіў, які пераўтварыў абліччa раёна. Гэтак жа пераўтвараюцца і раёны вуліц Пуліхава, Захарава, Веры Харужай, Горкага і іншыя.

Сярод архітэктараў і грамадскасці пераважаюць негатыўныя адносіны да практыкі масавага будаўніцтва. Бясспрэчна, многія наракканні на тыпавую масавую забудову справядлівыя. Аднак нельга з пенай выплюхнуць і дзіця — за апошнія гады ў масавай забудове намі накоплены немалы станоўчы вопыт.

Спынімся на некаторых прыкладах.

У бліжэйшы час заканчваецца забудова мікрараёна ў межах бульвара Луначарскага і вуліцы Высокай. Дзякуючы ўмеламу скарыстанню мясцовага рэльефу, удала пастаўленым на ўзвышшы дванаццаціпавярховым жылым домам, правільна спраектаваным гандлёвым прыбудовам, тут утвораны выразны ў архітэктурна-мастацкіх адносінах ансамбль. Ён прасторава развівае кампазіцыю плошчы Якуба Коласа і ўдала замыкае перспектыву вуліцы Веры Харужай.

Удала рэканструявана вуліца Ванеева ад Партызанскага праспекта да вуліцы Казлова. Сціплымі сродкамі ўдалося выразна вырашыць ансамбль гэтай вуліцы, які «працуе» і на Партызанскі праспект.

Добры ансамбль складваецца ў пачатку вуліцы Якуба Коласа. Існуючы фронт забудовы з боку Зялёнага Луга, кантрастна дапоўніцца працяглым 9-павярховым і групай 12-павярховых дамоў на другім баку вуліцы.

Размешчаныя на Партызанскім праспекце мікрараёны таксама актыўна ўдзельнічаюць у фарміраванні абліччa гэтай важнай гарадской магістралі. Ля ўезду ў горад з Магілёўскай шашы ўтварылася шматпланавая кампазіцыя мікрараёна, адкрыюць якую 12-павярховыя інтэрнаты аўтазавода. Па фронце Партызанскага праспекта хутка ўзнімуцца чатырнаццаціпавярховыя будынкі. Гэты раён літаральна пераўтворыцца.

Нарэшце, трэба адзначыць шырока вядомы комплекс на бульвары Талбухіна, які завершаны ў мінулай пяцігодцы. Група дзевяціпавярховых панельных будынкаў у спалучэнні з установамі культурна-бытавога і гандлёвага прызначэння ўспрымаецца як значны архітэктурны ансамбль. Ён сведчыць, што магчымасці фарміравання выразных архітэктурных комплексаў сучаснымі сродкамі заводскага домабудавання яшчэ далёка не вычарпаны.

За мінулыя гады значна палепшана і якасць архітэктурна-планіровачнага вырашэння кватэр. Абмежаваная наменклатура буйнапанельных будынкаў, якая існавала да 1966 года, стварала цяжкасці ў рацыянальным рассяленні сем'яў рознага складу. У выніку ўдасканалення тыпавых праектаў дасягнута значна большая разнастайнасць планіроўкі кватэр. Палепшыліся габарыты і прапорцыі пярэдніх і кухняў, створаны раздзельныя санітарныя вузлы. Кватэры, як правіла, будуюцца з непрахаднымі пакоямі, палепшылася знешняя аддзелка будынкаў, дамы сталі тэхнічна больш дасканалымі.

Інстытут «Мінскпраект» распрацаваў серыю дзевяціпавярховых жылых буйнапанельных дамоў на базе блок-секцый. Гэта дазваляе будаваць дамы любой працягласці і канфігурацыі. На вопыце забудовы эксперыментальнага раёна Усход наглядна праявіліся вартасці гэтага метаду, які з'яўляецца новым этапам у развіцці заводскага домабудавання.

На працягу мінулай пяцігодкі ў Мінску ўзведзены першы ў краіне завод аб'ёмнага домабудавання. Блок-пакоі, якія выпускае гэты завод, дазваляюць перанесці да 80 працэнтаў агульных выдаткаў працы на завод, што ў тры-чатыры разы скароціць тэрміны будаўніцтва.

Нарэшце, гаворачы аб жыллёвым будаўніцтве, нельга не адзначыць такога важнага факта, як масавы пераход да будаўніцтва дамоў з павышанай колькасцю паверхаў. Калі ў пачатку папярэдняй пяцігодкі ўдзельная вага гэтых дамоў складала да 10 працэнтаў, а да канца мінулай пяцігодкі — каля 40 працэнтаў, дык да канца 9-й пяцігодкі яна складзе прыкладна 70 працэнтаў усёй забудовы.

Гэтыя якасныя змены спалучаюцца з нарошчваннем аб'ёмаў жыллёвага будаўніцтва ў горадзе. У цэлым за пяцігодку пабудавана дамоў з агульнай карыснай плошчай 3342 тысячы квадратных метраў, што ў 2,5 раза перавышае ўвесь аб'ём жылога фонду Мінска да пачатку Вялікай Айчыннай вайны. Пры гэтым на практыцы вырашаны пытанні пасямейнага рассялення. Сацыяльную значнасць вырашэння гэтай праблемы цяжка пераацаніць.

Разам з тым, было б няправільным не заўважаць і значных недахопаў у пытаннях планіроўкі масавай жыллёвай забудовы. Яшчэ не зжыты штамп, трафарэт у прыёмах архітэктурна-планіровачнай арганізацыі жылля. Да прыкладу, у радзе мікрараёнаў горада назойліва ўжыты адзін і той жа кампазіцыйны прыём спалучэння 9- і 5-павярховых будынкаў, своеасаблівая «кропка-працяг». Мы яшчэ недастаткова ўмела выкарыстоўваем рэльеф мясцовасці і нярэдка замест таго, каб арганічна выкарыстаць выразны рэльеф у забудове, пускаем у ход бульдозер для нівеліроўкі гэтага рэльефу. Дзеля справядлівасці варта адзначыць, што ў гэтым вінаватыя не толькі архітэктары, але і забудоўшчыкі, бо актыўнае выкарыстанне рэльефу патрабуе больш пругкай тэхналогіі будаўніцтва. У сувязі з гэтым трэба нагадаць пра вопыт архітэктараў і будаўнікоў Вільнюса, якія ў новым мікрараёне Лаздзінай вельмі смела і цікава выкарыстоўваюць рэльеф мясцовасці, узводзячы каскадныя дамы. Многія мінскія архітэктары пабылі ўжо ў Вільнюсе і паглядзелі гэты раён, зрабіўшы сабе адпаведныя вывады. Было б добра пабываць там і нашым будаўнікам і запазычыць у Вільнюскага домабудаўнічага камбіната вопыт у вырашэнні тэхналогіі для такой забудовы.

Для далейшага паляпшэння архітэктурна-мастацкага абліччa масавай забудовы мы абавязаны прад'явіць больш рашучыя патрабаванні Міністэрству прамысловасці будматэрыялаў БССР. Параўнаўча нядаўна ў Доме архітэктараў прадстаўнікі міністэрства і асобных прадпрыемстваў дэманстравалі свае магчымасці, узоры прадукцыі. Але што ж мы маем на практыцы? У Мінску па некалькі гадоў стаяць не абліцаваныя цагляныя будынкі, а знадворныя панелі будынкаў серыі 1-464 выкананы хоць і якасна, але аднастайна. Усюды для абліцоўкі цагляных будынкаў і нават панеляў (серыя 1-335) мы ўжываем адны і тыя ж абліцовачныя пліткі тыпу «кабанчык» і ёсць небяспека, што яны таксама хутка апрыкраюць. Трэба хутчэй вырашаць пытанне забеспячэння горада шклокерамічнымі пліткамі, абліцовачнай цэглай і іншымі больш разнастайнымі матэрыяламі.

Сур'ёзны рахунак мы абавязаны прад'явіць заводу аб'ёмнага домабудаўніцтва, які своечасова не забяспечыў тэхналогію аддзелкі дамоў з аб'ёмных кабін, у выніку чаго першыя дамы гэтага завода, замест устойлівай працяглай аддзелкі, фарбуюцца. Нам не хапае ўстойлівых высакаякасных фарбаў, а вопыт так званага «напылення» з ужываннем латэксу яшчэ недастаткова шырока ўжываецца.

Сур'ёзныя патрабаванні ёсць і да якасці аддзелкі кватэр. Узяць, напрыклад, убудаваную мэблю. Гэтая мэбля пакуль што значна горшая за тую, якую мы бачым у магазінах, хоць у кошце розніца не такая вялікая.

Савет Міністраў БССР летась разгледзеў і ўхваліў мерапрыемствы, накіраваныя на паляпшэнне якасці, тэхнічнага ўзроўню будаўніцтва ў Мінску. У адпаведнасці з гэтымі мерапрыемствамі Міністэрства лясной прамысловасці БССР, пачынаючы з 1971 года, павінна арганізаваць вы-



Фрагмент мікрараёна на бульвары Луначарскага. Прыклад удалага скарыстання рэльефу, кампазіцыі забудовы.

Фота аўтара.

## СПРАВАЗДАЧА МАЛОДШАГА КАЛЕГІ

У студзені жыхары і госці Мінска ўбачылі першы спектакль Дзяржаўнага тэатра музычнай камедыі БССР — аперэту Ю. Семянякі «Спявае «Жаваранак». Летам малады калектыў выязджаў у Гомель, Брэст, Магілёў. 8 верасня кіраўнікі і артысты тэатра ў рэспубліканскім Доме работнікаў мастацтваў сустрэліся з прадстаўнікамі тэатральнай грамадскасці сталіцы.

— Першы тэатральны сезон быў для нас напружаным часам пошуку і станаўлення, — сказаў выконваючы абавязкі дырэктара А. Паніхін.

Аб тым, як тэатр набыў сваю творчую індывідуальнасць, аб творчых планах на будучы тэатральны сезон расказалі галоўны дырыжор заслужаны артыст БССР П. Кірыльчанка, рэжысёр В. Вярбоўская.

Ужо цяпер у афішах з'явілася аперэта «Каўказская пляменніца». Гэта насычаны гумарам твор аб сучаснасці і маладосці. Аўтары «Каўказскай пляменніцы» народны артыст Азербайджанскай ССР Р. Гаджыеў, пісьменнікі В. Есьман і К. Крыкаран прапанавалі сваю новую аперэту «Чацвёрты званок» па творы М. Ларні. Тэатр першым пазнаёміць гледача з гэтай сатырычнай музычнай камедыяй. Мяркуецца паставіць бытавую сатыру «Рэпартаж з пекла» беларускага кампазітара Я. Глебава на лібрэта П. Харкова.

На вечары артысты паказалі ўрыўкі са спектакляў. Удзельнікаў сустрэчы ад імя Беларускага тэатральнага таварыства вітала старшыня прэзідыума таварыства, народная артыстка СССР Л. Александроўская.

БЕЛТА.

# ЖЫЦЦЯ НАРОДНАГА ПЯСНЯР

Многімі выдатнымі кнігамі натхнёнай і акрыленай, яснай і высокай паэзіі сустракае сваё шасцідзесяцігоддзе вядомы ўкраінскі паэт, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР і прэміі імя Шаўчэнкі Мікола Нагнібяда. Ён — пясняр народнага жыцця, пясняр прыгажосці, душы чалавечай.

Мікола Нагнібяда—даўні, шчыры друг беларускай паэзіі. Ён перакладаў, рэдагаваў пераклады, пісаў прадмовы да кніг Янкі Купалы, Якуба Коласа, Аркадзя Куляшова, Петруся Броўкі, Пімена Панчанкі, Анатоля Вялюгіна і іншых беларускіх паэтаў, якія выходзілі на ўкраінскай мове. Многа часу, натхнёнай працы аддаў наш друг перакладу і выданню двухтомнай «Анталогіі беларускай савецкай паэзіі», якая выходзіць у Кіеве. Высока ацэнена добрая праца паэта. Ён узнагароджаны Ганаровай граматай Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР. У выдавецтве «Беларусь» выйшлі яго кнігі «Песня з Украіны», «Васілёк» і «Трэцяе спатканне» ў перакладзе нашых паэтаў.

Праз шэсцьдзесят гадоў дарогай творчых пошукаў, знаходак і перамог ішоў паэт у сваю паэтычную сталасць, у добрую славу. Да юбілейнай даты паэта ў выдавецтве «Радянський письменник» у Кіеве выйшла кніга артыкулаў і ўспамінаў «Пра Міколу Нагнібяду». У гэтым зборніку — артыкулы-роздумы, шчырыя словы ўкраінскіх, рускіх, беларускіх паэтаў. Усе яны з вялікім замілаваннем гавораць пра таленавітага мастака слова.

**Паўло Тычына:** «Вялікім творчым поспехам Міколы Нагнібяды ёсць тое, што ён у сваёй паэзіі стварыў гераічны вобраз савецкага чалавека, паказаў яго высокія маральныя якасці, яго энтузіязм на вялікіх будоўлях камунізма, яго непахісную волю ў барацьбе за мір».

**Максім Рыльскі:** «Прырода і чалавек, спрадвечная краса прыроды і магутнасць чалавечага розуму і чалавечай волі, што любоўна клапоцяцца пра гэтую прыроду і смела пераўтвараюць яе,— гэтая тэма стаіць у цэнтры ўвагі Міколы Нагнібяды... У паэзіі яго плешчуць хвалі Чорнага і Азоўскага мораў, і Дняпра, і Дуная, і Цісы... Міколу Нагнібяду можна смела назваць песняром дружбы савецкіх народаў».

**Аляксандр Пракоф'еў:** «Мікола Нагнібяда — паэт барацьбы і прыгожага жыцця... Калі чытаеш яго вершы, у душу ўліваецца дух упэўненасці і, я б сказаў, моцнасці быцця. Адчуваеш, что стаіш абедзвюма нагамі на роднай зямлі і ніякім ворагам з гэтай зямлі цябе не спіхнуць... Голас паэта Міколы Нагнібяды гучыць далёка за межамі Украіны — і далёка за межамі нашай вялікай Айчыны, і я рады, што, напоўнены свежымі барвамі і стэпавым ветрам, голас гэты чуваць і ў нас, па берагах Нявы».

**Максім Танк:** «З паэзіяй Міколы Нагнібяды я падружыў яшчэ да ўз'яднання Заходняй Беларусі... Пра што б ні пісаў паэт, мы адчуваем, што гэта тварыў не пабочны назіральнік, а чалавек, які ўсё гэта перажыў, сам быў удзельнікам незабыўных падзей. І таму кожнаму яго слову глыбока верыш... Багата хто з нас сардэчна ўдзячны паэту за тое, што вершы нашы, перакладзеныя на братнюю ўкраінскую мову, з яго пуцёўкаю прадаўжаюць сваё няспыннае падарожжа па незастарэлых мясцінах нашых незлічоных братэрскіх сустрэч».



**Аркадзь Куляшоў:** «Хіба не спадарожнічае шчасце паэту ў пачэснай справе пісаць творы, у якіх спалучаецца свежасць вобразнага мыслення з глыбокаю думкаю і маладым пачуццём, пафас публіцыста з сардэчнаю лірыкаю? У вершах Міколы Нагнібяды багата трапных дэталяў і параўнанняў, якія здзіўляюць сваёю дакладнасцю і нечаканасцю...».

Напярэдадні шасцідзесяцігоддзя з дня нараджэння ўкраінскага сябра прапануем увазе чытачоў яго некалькі новых вершаў.

## Мікола НАГНІБЯДА

### ВЕРАСЕНЬ

Час даспелых галін,
Час празрыстасці грон.
Першы сум арабін —
Залацеючых крон.

Час далёкіх грамоў
І далёкіх зарніц,
Час багатых сталоў,
Дабраты маладзіц.

Час бялюткіх атаў,
І заручынаў час,
Падрахункаў — што ўзяў
Ты са зведаных трас?..

Час крылатых разлук
І рахманых палёў,
Час натруджаных рук
І надзей у сяўцоў.

Час маркоты якраз
У азёраў і траў...
А чаму ў гэты час
Я пра восень згадаў?

Спелы цвет, чырваньцвет,
Час натомленых кос...
У такі мяне свет
Колісь бусел прынёс.

●

На золата ніколі не малюся,
Багоў не клічу, сам я маю гнеў,
Што чорт дрыжыць, а з хітруна смяюся,
Абы маю пагарду зразумеў.
Люблю красу і чысцінёю мрою,
Як што люблю — то ўжо да забыцця,
Ды ад мадон ганю хлусню з бядою,
З усмешкаю саромнаю дзіця.

Твая бяда — мая бяда-пакута.
Душу і пэндзаль рады славіць я,
Ды не прыму малёванай атруты
На палатне мазілы-круцяля.

На зерне добрае — калоссем адзавуся,
Расіне вернасці — блакітных хваль святлом.
На шчырасць — шчырасцю бясконцай разліюся,
На зло і крыўду—падаю, як гром.

### БРАТУ КАНСТАНЦІНУ

Чуеш, браце...
Ужо на паўднёвых вятрах
Журавы вызначаюць пуць.
Пад крылом — Дзясна,
На крыле — вясна,
А на дзюбах — пралескі цвітуць.

Чуеш, браце,
Гуртуюцца ў хмарах грамы
І дзесь вострыць маланку каваль —
Сонца горнам гарыць,
Бор, як мех той, шуміць,
А крыніцы блішчаць, нібы сталь.

Чуеш, браце,
Вясна, абтрусіўшы снягі
Саміх позніх, ліхіх завірух,
Ліўні першыя п'е
Колькі моцы стае,
Сіне-зелена квецячы луг.

Чуеш, браце,—
Кру-кру далятае з-пад хмар,—
Крэсле ў небе зваротны свой шлях,
Разганяючы сны
Першаспевам вясны,
Адгукаецца ў ціхіх палях.

Чуеш, браце мой Косця,
Завітаў бы у госці.
Можа, крылы дадуць жураўлі?..
— Чую, браце мой, чую,
Хоць даўно ўжо качую
У таманскай, матроскай зямлі.

І дажджамі, грамамі
Ходзяць вёсны над намі,
Дзе курган над байцамі стаіць.
Шлю у госці душу я,
Бо скалу не звярну я,
На руцэ мой таварыш ляжыць.

З украінскай мовы пераклаў Антон БЯЛЕВІЧ.

# ДЗЯРЖАЎНЫ СІМФАНІЧНЫ— 1971—72

Восень — пара адкрыцця канцэртнага сезона ў дзесятках філармоній краіны. Музыканты вярнуліся з летніх водпускаў і пачынаюць карпатлівую рэпетыцыйную работу.

Зззе строгай чысцінёй пустое фае Беларускай дзяржаўнай філармоніі, а з рэпетыцыйных класаў даносіцца складаная паліфанія гукаў — да работы прыступіў Дзяржаўны сімфанічны аркестр БССР.

Вясной 1937 года аркестр упершыню выступіў перад слухачамі як самастойны калектыў. За трыццаць пяць гадоў ён вырас і дасягнуў такога ўзроўню прафесійнасці, што стаў не толькі вядучым калектывам філармоніі, але і адным з лепшых аркестраў краіны.

З вялікай цеплынёй адгукаюцца буйнейшыя сучасныя дырыжоры і выканаўцы аб творчых магчымасцях калектыву і, як правіла, выказваюць шчырае і гарачае жаданне сустрэцца зноў на сцэне канцэртнай залы.

У мінулым сезоне аркестру апладзіравалі ў Рызе, Вільнюсе і іншых гарадах Прыбалтыкі. Летнія гастролі аркестра далі магчымасць жыхарам Бранска, Растова-на-Доне і многіх волжскіх гарадоў Расійскай Федэрацыі пазнаёміцца з музыкай беларускіх кампазітараў і творамі савецкіх і зарубежных аўтараў, якія рэдка выконваюцца.

Абяцае быць цікавым і новы канцэртны сезон аркестра. Буйнейшыя выканаўцы і дырыжоры выступяць з аркестрам у канцэртах. У Мінск прыедуць Э. Гілельс, М. Растраповіч, Р. Керэр, маладыя выканаўцы — пераможцы нядаўніх міжнародных конкурсаў В. Траццякоў, Г. Крэмер, В. Шацкі і іншыя.

Цыкл канцэртаў дасць цудоўны ленінградскі піяніст, народны артыст СССР П. Серабракоў.

Афішы прапануюць увазе слухачоў работу з аркестрам маладых таленавітых дырыжораў — Цімерканава, Сіманава, Кітаенкі. Чакаюцца выступленні ўжо знаёмых амерыканскага дырыжора Г. Мітчэла і Р. Кляйнерта (ГДР), дырыжораў Італіі, Партугаліі, Новай Зеландыі.

28—29 верасня разам з Дзяржаўным сімфанічным аркестрам БССР новы канцэртны сезон адкрыюць лаўрэаты міжнародных конкурсаў Уладзімір Крайнеў і Віктар Траццякоў. Аркестр прадставіць дзве новыя работы: Другую сімфонію І. Брамса і Дзевятую сімфонію Д. Шастаковіча.

У пачатку сезона аркестр выступіць у Гомелі. У праграме — тры фартэпіянныя канцэрты П. Чайкоўскага. Саліст — Э. Гілельс.

Напружаная работа чакае аркестр у сувязі з пленумам Саюза кампазітараў БССР, які будзе прысвечаны творчасці маладых. Многа сіл і энергіі давядзецца аддаць калектыву і яго дырыжору — дыпламанту Усесаюзнага конкурсу Ю. Яфімаву ў справе папулярызацыі беларускай музыкі, мастацтва прыгожага і вечнага, сярод моладзі сталіцы і іншых гарадоў і вёсак рэспублікі.

У добрую трыдыцыю ўваходзіць штогадовае правядзенне «Тыдня сімфанічных прэм'ер». Сёлета на гэтым свяце музыкі будуць выкананы новыя творы беларускіх аўтараў А. Янчанкі, Я. Глебава, К. Цесакова і іншых.

Будуць, як і раней, арганізаваны аўтарскія канцэрты. У гэты далёка не поўны план работы аркестра ў новым сезоне ўваходзіць удзел у юбілейных канцэртах, прысвечаных творчасці А. Скрабіна, і праграмах — «Някрасаў і музыка».

Аркестр чакае слухачоў, і, думаецца, яны атрымаюць сапраўдную асалоду ад сустрэч з гэтым цудоўным калектывам.

В. ДАНІЛАЎ.




## ГОСЦІ МІНСКА

Нацыянальны ансамбль танца Сьера-Леоне з Афрыкі зусім малады, але карыстаецца вялікім поспехам у многіх краінах свету. Ён лаўрэат некалькіх міжнародных конкурсаў. У Савецкім Саюзе афрыканскія артысты ўпершыню. У гутарцы з карэспандэнтамі кіраўнік ансамбля Джон Бантынг Грэдэн выказаў сваю ўдзячнасць савецкаму гледачу, вельмі чуламу і адукаванаму. «Хочацца спадзявацца, — сказаў ён, — што гэты прыезд будзе пачаткам сяброўскіх і культурных сувязей паміж нашымі народамі».

На здымках вы бачыце выступленне афрыканскіх гасцей на сцэне Беларускай дзяржаўнай філармоніі.

Фота Ул. КРУКА.

Уладзіслаў ПАЎЛЯК

# ЗАГАДКА АФРЫКАНСКАГА

**«Адной з найбольшых таямніц XX стагоддзя» назвалі гісторыю авіяцыйнай катастрофы, у выніку якой у верасні 1961 года загінуў тагачасны генеральны сакратар Арганізацыі Аб'яднаных Нацый Даг Хамаршэльд. Акалічнасці гэтай катастрофы і да гэтага часу не высветлены, але нямала фактаў сведчаць пра тое, што ён стаў ахвяраю тых сіл, якія не жадалі справядлівага вырашэння кангалезскай праблемы і згодны былі зберагчы навекі ў Афрыцы каланіяльныя парадкі і ўладу імперыялістычных дзяржаў.**

**Нагадаем, што Арганізацыя Аб'яднаных Нацый, па патрабаванні сацыялістычных краін, ужывала некаторыя захады супраць Чомбэ і яго клікі ў Катанзе. Але пэўныя заходнія імперыялістычныя колы, на першы погляд нібы і згаджаючыся з крокамі ААН, на самай справе падтрымлівалі Чомбэ, зрывалі мірнае ўрэгуляванне становішча ў Конга.**

**Даг Хамаршэльд, які павінен быў сустрэцца з Чомбэ, відаць, добра разумеў, што перагаворы з важаком катангскіх сепаратыстаў не будуць мець поспеху, і яго місія асуджана на правал.**

**Друкуем раздзел пра гібель Хамаршэльда з твора польскага пісьменніка У. Паўляка «Кніга пра замахі» (1970 г.).**

ДЗЕСЯЦЬ МІНУТ першай гадзіны па радэзійскім часе, у ноч з 17 на 18 верасня 1961 года, пілот белага самалёта, які вёз генеральнага сакратара ААН Дага Хамаршэльда, апошні раз размаўляў з аэрадромам Ндола на граніцы Паўночнай Радэзіі (цяпер Замбія) і правінцыі Катанга. На гэтым сувязь спынілася...

## ВЫПАДАК ЦІ ДЫВЕРСІЯ!

Абломкі чатырохматорнага самалёта ДС-6В дагаралі ў вялікім тэрмітніку. Вакол былі раскіданы рэшткі апаратуры і абсталявання. Шэсць членаў экіпажа і дзевяць пасажыраў ляжалі непадалёку. Адзін з іх яшчэ дыхаў, але быў цяжка паранены і абгарэлы. Іншыя загінулі; іх абгарэлыя, начарнелыя трупы амаль немагчыма было пазнаць.

Цела Хамаршэльда ляжала асобна, у ненатуральнай позе. Мабыць, выбуховая хваля адкінула яго далей за іншых — куды агонь ужо не дасягаў. Аднак пры падзенні ён зламаў сабе хрыбет. Рэбры яго ўдавіліся, на целе былі дзве раны, але галава засталася непашкоджанай, гэтак жа, як твар з вострым носам і са сцятымі, як у жыцці, губамі. З-пад рэдкіх сівеючых валасоў і высокага ілба мёртва шкляненелі бледна-блакітныя вочы.

Ён быў без пінжака, у сарочцы (гальштук, як заўсёды, старанна завязаны) і ў тонкіх габардзінавых штанах. Не было прыкметна, каб Хамаршэльд зашпільваў рамяні, як патрабуецца ў час пасадкі. Прытым на чатырох іншых целах выявіліся сляды зашпіленых рамянёў.

Дапамога была недалёка: ад месца катастрофы да бліжэйшага аэрадрома Ндола толькі 15 кіламетраў, і выратавальная група магла б пераадолець іх за 35 мінут. Але яна выехала толькі пасля паўдня, калі паветраныя пошукі (іх пачалі са спазненнем на шэсць гадзін) далі магчымасць знайсці згублены самалёт.

Вестка пра гібель Хамаршэльда распаўсюдзілася імгненна. Першыя паведамленні з месца катастрофы выклікалі вялікую колькасць чутак і дапушчэнняў. Тады і з'явіліся першыя падазрэнні, што катастрофа, магчыма, не была выпадковай.

Назаўтра, у аўторак 19 верасня, павінна была распачацца сесія Генеральнай Асамблеі ААН. Але ўжо ў нядзелю, а для Хамаршэльда яшчэ раней, стала вядома, што вайсковая аперацыя ААН у Катанзе з мэтай палітычнай ізаляцыі «прэзідэнта» Чомбэ і ўмяшання іншаземных наймітаў пацярпела паражэнне. Становішча «блакітных шлёмаў» было няпэўнае, а ірландскія падраздзяленні войск ААН у Жадавілі амаль непазбежна вымушаны былі б скласці зброю.

Хамаршэльд выляцеў у нядзелю вечарам з аэрадрома Ныілі паблізу Леапольдвіля (Кіншасы) для сустрэчы з Чомбэ на тэрыторыі, якую кантраляваў адкрыты прыхільнік Чомбэ, прэм'ер-міністр Федэрацыі Радэзіі і Ньясаленда Рой Веленскі.

Хамаршэльд разумеў, што сапраўдны яго праціўнік зусім не Чомбэ. Нечыя добра аплочаныя рукі пісалі на сценах: «Вон ААН» не толькі ў гарадах Катангі. Брусельская правая газета «Дэрньер эр» параўноўвала дзейнасць войск ААН у Катанзе з гітлераўскай акупацыяй Бельгіі. Кансерватыўная лонданская «Дэйлі тэлеграф» змясціла агляд пад назвай «Агрэсія ААН». У Францыі дзейнічала таварыства французска-катангскай дружбы, арганізаванае алжырскімі «ультра» і іх прыхільнікамі ва ўрадавых колах. У ЗША таксама ўзнік «Амерыканскі камітэт дапамогі барацьбітам за свабоду Катангі». Неафіцыяльны прадстаўнік Чомбэ ў Нью-Йорку меў амаль дыпламатычны статус. Актыўным дарадцам пракатангскіх сіл стаў уплывовы ў ЗША адмірал у адстаўцы Алан Дж. Керк.

Адным словам, тыя, хто ў 1960 годзе сыпалі Хамаршэльду падзякі і пахвалы за яго дзейнасць, хто нарэшце прывёў да звяржэння ўраду Патрыса Лумумбы, цяпер шалёна атакавалі ААН і яе генеральнага сакратара. Больш таго, яму пагражалі. Абат Фюльбер Юлу, тагачасны дыктатар Конга (Бразавіль), заявіў, што не можа ручацца за бяспеку Хамаршэльда, калі б той выкарыстаў бразавільскі аэрапорт. Зразумела, без чыйгосьці заахвочвання Юлу не адважыўся б на такія выказванні.

Дыпламатаў і журналістаў, якія прыбылі ў Нью-Йорк на сесію Генеральнай Асамблеі ААН, асабліва прадстаўнікоў Афрыкі і Азіі, непакоіла пытанне: замах ці выпадковая катастрофа? Злачынства ці няшчасце?

Прэзідэнт Гвінеі Секу Турэ выказаўся без ваганняў: «Генеральны сакратар ААН загінуў ад рук тых самых людзей, прыхільнікам і прыладай якіх быў сам. Ён, як і Патрыс Лумумба, стаў ахвярай каланізатарскіх махінацый у Конга».

Кангалезскі ўрад у афіцыяльнай заяве выказаўся больш асцярожна: назваў Хамаршэльда ахвяраю «бессаромных інтрыг фінансавых магнатаў Захаду».

«Пан Хамаршэльд пакончыў жыццё самагубствам. Ужо ў нядзелю, калі яму давялося звярнуцца да Чомбэ з прапановай аб спыненні агню настала яго палітычная смерць... Гэта быў палёт самазабойцы»,—пісаў парыжскі тыднёвік «Экспрэс». Яго думку падхапілі ў міністэрстве замежных спраў Францыі. Яшчэ раней нейкі шведскі дыпламат, прыяцель Хамаршэльда, таксама выказаўся падобным чынам.

І ўсё-такі самалёт разбіўся не таму, што Хамаршэльд усвядоміў сваё паражэнне як палітык і як чалавек. Ён упаў на зямлю не толькі з-за інтрыг сепаратыстаў або каланіялістаў, якімі б яны ні былі злавеснымі. Калі катастрофа не была трагічным выпадкам, значыцца яе падрыхтавалі канкрэтныя асобы.

## ЧОМБЭ, ДЗЮШМЕН І ІНШЫЯ

Катангскія найміты люта ненавідзелі Хамаршэльда і не ўтойвалі гэтага нават пасля яго смерці. Таму не дзіўна, што ў акружэнні «прэзідэнта» Чомбэ, сярод яго дарадцаў, дзейсна рыхтаваўся замах на Хамаршэльда. Аднак яго збіраліся не забіць, а зрабіць заложнікам і такім чынам дамагчыся спынення аперацыі, поспех якой пагражаў бы Чомбэ падпарадкаваннем цэнтральнаму ўраду Конга.

Паведамленні пра гэта з'явіліся ў студзені 1962 года ў газетах Капенгагена і Стакгольма і неўзабаве абышлі сусветную прэсу. Іх аўтарам быў скандынаўскі журналіст Т. Ліндстрэм, які пранік у асяроддзе наймітаў. А аўтарам плана захаплення Хамаршэльда быў француз Жак Дзюшмен, які ў 1961 годзе займаў у Катанзе пасаду намесніка вайсковага міністра ва «ўрадзе» Чомбэ.

«Віцэ-міністр» Жак Дзюшмен не належаў да мазгавога трэста, які распрацоўваў стратэгію «Клуба пяці»; Ён быў толькі палітычным авантурыстам, выканаўцам. Як і іншыя еўрапейцы ў Катанзе, ён служыў Чомбэ выключна з асабістага разліку.

Здзейсніць план, распрацаваны Дзюшменам, было даручана бельгійцу з кангалезскай разведкі, лейтэнанту Раберу Гейселю. Ён павінен быў пераапрануцца сержантам падраздзяленняў ААН, трапіць з адпаведнымі дакументамі ў Леапольдвіль, прабрацца на борт самалёта, дзе быў Хамаршэльд, і ў належны момант, пагражаючы зброяй, прымусіць пілота змяніць курс і прызямліцца на катангскай базе Кальвезі.

Выкананне першай часткі плана не выклікала цяжкасцей. Гейсель мог дабрацца да Леапольдвіля, мог нават наладзіць патрэбныя сувязі. Але хоць «Альберціна» і стаяла на аэрадроме Ныілі без аховы, дзверы самалёта былі замкнуты і, як запісана ў дакументах ААН, заблакіраваны. Гейсель павінен быў не толькі адамкнуць іх і схавацца ў сярэдзіне, але і замесці ўласныя сляды, якія маглі б выклікаць падазрэнне.

Пілоцкая кабіна была праверана перад палётам —магчыма, не вельмі старанна,—але ў час праверкі не выявілі пабочных асоб і ніякага падазронага пакунка, дзе магла б змяшчацца пякельная машына або іншае выбуховае прыстасаванне. На борт самалёта не магла ступіць ніякая пабочная асоба: Стур Лінер, самага высокага рангу супрацоўнік ААН у Конга, сам праводзіў Хамаршэльда і асабіста ведаў усіх удзельнікаў палёту.

Але, можа, Гейсель схаваўся ў багажным аддзяленні або ў якім-небудзь іншым закутку вялікага ДС-6В? Гэта таксама мала магчыма: дайсці адтуль непрыкметна да кабіны цяжка. Прытым, навошта яму было са страхам чакаць экіпажа і пасажыраў цэлых шэсць гадзін, да апошняй мінуты, калі самалёт апынуўся ўжо над Ндолай?

Ёсць і іншыя супярэчнасці. Як-ніяк, Гейсель быў разведчыкам. І калі яму хапіла кемлівасці здабыць інфармацыю пра будучы палёт Хамаршэльда, дык як можна дапусціць, што ён нібыта не ведаў пра яго мэту? Нават калі б Гейсель не даведаўся, што Хамаршэльд ляціць на сустрэчу з Чомбэ, ён павінен быў бы здагадацца, што ад серады да нядзелі сітуацыя змянілася, і таму спроба замаху на Хамаршэльда стала недарэчнасцю...

Але годзе шукаць адказу: таямнічага Рабера Гейселя не знайшоў ніхто. Не знайшлі і ніякага семнаццатага цела ў лесе каля Ндолы. Патолагаанатомы аднагалосна заявілі, хоць і з прафесіянальнай асцярожнасцю: «надзвычай неймаверна, што знойдзеныя рэшткі цел належалі больш як шаснаццаці асобам».

## ЯК ГЭТА БЫЛО

Экіпаж «Альберціны» налічваў шэсць шведаў, самых дасведчаных і выпрабаваных супрацоўнікаў шведскай авіяцыйнай кампаніі «Трансэйр». Асабістую ахову генеральнага сакратара, якая складалася з трох сержантаў службы бяспекі ААН, узмацнілі двума шведскімі вайсковымі: яны ўнеслі ў кабіну цэлы камплект разнастайнай зброі і амуніцыі. Хамаршэльда суправаджалі два саветнікі-амерыканцы: Вішоф, які ўвесь час быў пры ім, і Фабры з кангалезскага бюро ААН, а таксама сакратары—амерыканец Ранала і канадка Лаланд.

Звесткі пра палёт павінны былі захоўвацца ў найвялікшым сакрэце. Камандзір самалёта Пер Халанквіст у рапарце, складзеным адпаведна з інструкцыяй, напісаў, што ляціць у Лулуабург. Сапраўды ж траса палёту ішла далей на поўнач, шырокай дугою над усходняй правінцыяй да возера Танганьіка, а адтуль, як мага далей абмінаючы Катангу,—на поўдзень, да Ндолы.

Апошнюю частку трасы ў штабе войск ААН лічылі самай небяспечнай. Неба над паўднёва-ўсходняй часткай Конга цалкам кантралявалі катангскія лётчыкі, і самалёту Хамаршэльда пагражаў напад з іх боку. Забяспечыць ахову ў паветры было немагчыма: войскі ААН мелі толькі транспартныя самалёты. Праўда, у сепаратыстаў было не больш дзесяці машын, пераважна навенькія «Дарнье-28» з ФРГ ды крыху старэйшыя англійскія «Даў». Аднак найбольшай пагрозай з'яўляліся два рэактыўныя знішчальнікі «Фуга-Мажыстэр», прывезеныя з Францыі ў Катангу пад выглядам горназдабывальных машын. Адзін з іх за два дні да палёту Хамаршэльда абстраляў з малой вышыні рэзідэнцыю ААН у Элізабетвілі, а потым—аэрадром; з яго тады стартаваў самалёт, які пазней быў аддадзены ў распараджэнне Хамаршэльда. У час абстрэлу самалёт атрымаў нязначныя пашкоджанні, якія адразу былі ліквідаваны.

Старт адбыўся без урачыстых цырымоній. Генеральнага сакратара суправаджалі толькі некалькі чалавек з ААН. Не было відаць нікога з прадстаўнікоў кангалезскага ўрада. Не было і паслоў Англіі і ЗША: з імі ў апошнія дні перад адлётам Хамаршэльд праводзіў больш часу, чым з кангалезцамі. Яшчэ ў нядзелю прадстаўнік англійскага міністэрства замежных спраў лорд Ленсдаўн, які спецыяльна прыбыў з Лондана, паставіў рашучае патрабаванне спыніць паліцэйскую акцыю ААН у Катанзе. Ён адмовіўся даць дазвол на палёт знішчальнікаў, якія згодна была перадаць ААН Эфіопія, над тэрыторыяй англійскіх калоній аж да Конга, але нагадаў пра гатоўнасць англійскага ўрада зрабіць уплыў у некаторых пытаннях на Чомбэ. Ён жа і запрапанаваў Ндолу для сустрэчы з Чомбэ (у Радэзіі—гэта ж як-ніяк пад брытанскай эгідай) і абяцаў узяць на сябе ўсю падрыхтоўку. Хамаршэльд згадзіўся, але адкінуў прапанову Ленсдаўна прыняць асабісты ўдзел у размовах з Чомбэ.

Пасол ЗША ў Конга Гульён, якога Хамаршэльд інфармаваў пра размовы з англічанамі, нічога не прапанаваў і нічому не пярэчыў. Мабыць, ён прытрымліваўся формулы дзярждэпартамента: «Даг гэта ўладкуе». Але ў той сітуацыі яна азначала: «Няхай Даг сам гэта ўладкуе».

Хамаршэльд не праявіў ніякіх ваганняў. У 16.51 па кангалезскім часе (15.15 па радэзійскім) «Альберціна» ўзнялася ў паветра. Неўзабаве выявілася, што сакрэт не быў вытрыманы. Праз дзесяць мінут пасля старту Хамаршэльда тэлеграфныя агенцтвы ўсяго свету паведамілі аб гэтым. Радэзійскі ўрад у Солсберы яшчэ раней атрымаў адпаведнае паведамленне з Лондана і ад англійскага пасла ў Конга Рычса. Вядомая рэч, Чомбэ і яго акружэнне таксама былі пра ўсё інфармаваны.

На аэрадроме Ндолы, не зважаючы на нядзелю, панавала ажыўленне. Дырэктара аэрапорта Уільямса тэрмінова выклікалі з адпачынку: ён павінен быў падрыхтаваць свой кабінет для сустрэчы Хамаршэльда з Чомбэ, а таксама арганізаваць прыём самалёта ноччу, паколькі Хамаршэльд раней не мог прыляцець. Ужо напярэдадні на ўзлётных палосах аэрадрома стаяла некалькі знішчальнікаў і бамбардзіроўшчыкаў англа-радэзійскіх паветраных сіл. Паводле чутак, якіх ніхто не абвяргаў, іх сканцэнтравалі паблізу катангскай граніцы на падтрымку пазіцый Роя Веленскага і лорда Ленсдаўна. Першы абяцаў усяляк дапамагаць Чомбэ, другі папярэдзіў Хамаршэльда, што Радэзія забяспечыць Чомбэ вядзенне парты-

# ВЯСЁЛАЯ ТРАСЯНКА

ЖАРТЫ, ГУМАРЭСКІ, ПАРОДЫІ, ЭПІГРАМЫ, ШАРЖЫ

Іван СТАДОЛЬНІК

## ХАРАКТАРЫСТЫКА

РАНІЦОЮ, мінуўшы рабочае месца, Качан паплёўся ў кабінет дырэктара. Заўсёды пасля прэгулу ён, дзякуючы настырнасці майстра, вымушаны быў рабіць такое турнэ. Ідучы цяпер, ён соўгаў нагамі па калідоры, нібы хто іх падцягваў невідочнымі вяроўкамі. У грудзях Качана пякло так, быццам ён толькі што выжлукціў пляшку першака. Прагуляць два дні, калі план на валаску, — гэта не жартачкі.

«Абяцанкі ўжо не памогуць,—думаў Качан.— Зраблю сіратлівы твар і буду маўчаць. Хай ён хоць есць з вантробамі, хай хоць тэлефонным апаратам агрэе па галаве —стрываю. Маўчанне часам дзейнічае мацней за абяцанкі і самыя слёзныя клятвы. Яно неаднойчы мяне выручала».

А тым часам дырэктар рамонтнай канторы і не збіраўся «есці» Качана. Дырэктар разам са старшынёй мясцкома Іванам Сымонавічам Ціханам пісалі характарыстыку Качану.

— Пішы, Іван Сымонавіч, — дыктаваў дырэктар. — За час работы ў рамонтнай канторы тав. Качан зарэкамендаваў сябе выдатным працаўніком, дысцыплінаваным і стаҏанным. Актыўны рацыяналізатар...

— Чакайце, Антон Пятровіч, а што такое рацыянальнае прапанаваў Качан?

— Не прапанаваў, дык прапануе. Вы ж ведаеце, што Качан як вып'е, усё пульверызатар крытыкуе. Кажа, што ён толькі і цэліць, каб твар заляпіць фарбай, а не сцяну. А раз чалавек крытычна адносіцца да інструмента, дык і прыдумаць можа што-небудзь.

Больш старшыня мясцкома не перабіваў дырэктара, а старанна занатоўваў на паперы яго словы: і тое, што Качан—першы актывіст, і што ён больш за ўсіх чытае, і тое, што Качан—увогуле перадавы работнік.

Як бы ўчуўшы, што дырэктар са старшынёй мясцкома скончылі сваю творчасць, Качан паціху ўсунуўся ў кабінет. Дырэктар шырока ўсміхнуўся і, першым падаючы руку Качану, сказаў старшыні мясцкома:

—Вось і прапажа знайшлася. Я ж казаў, што Качан —лёгкі на ўспамін. — І, павярнуўшыся да госця, усаджваючы яго ў крэсла, працягваў: —Мы тут, таварыш Качан, з Іванам Сымонавічам вось што вырашылі: зрабіць прыемнае і табе, і нам. Ты сам ведаеш, што твае прыгоды нам надакучылі. Дык вось. Падай заяву. Па ўласным жаданні. А мы табе такую характарыстыку дадзім, што цябе не толькі ў нейкую там майстэрню, а ў міністэрства прымуць.

Качан маўчаў.

— Ну, дык згода?

— А што добрага вы можаце пра мяне напісаць?

— Хе, добрага шмат чаго можна прыдумаць. Значыць, згода?

— Хай сабе, — здаўся Качан.

— Ну дык—чытай, Сымонавіч! — урачыста загадаў дырэктар.

Качан слухаў і не верыў сваім вушам. Прыгожыя словы характарыстыкі салодка адгукаліся ў душы. Быццам Іван Сымонавіч чытаў не звычайную паперку, а падносіў Качану чарку за чаркай.

Заяву на звальненне па ўласным жаданні Качан падпісаў адным махам. Але за дзвярыма дырэктарскага кабінета ачомаўся. Ён перабіраў у памяці ўсе прадпрыемствы і ўстановы свайго гарадка і не знаходзіў такога месца, дзе б ён некалі не працаваў. І ўсё-такі вырашыў схадзіць у сельпо: чуў, што там патрабуецца экспедытар.

Начальнік аддзела кадраў сельпо, не глянуўшы нават на характарыстыку, замахаў рукамі:

— Што вы, Качан, позна ўжо! Узялі чалавека!

Як жаласліва ні глядзеў на яго Качан, як ні падсоўваў яму пачытаць характарыстыку, начальнік толькі адмахваўся.

Больш ісці не было куды. Падпёршы спіной плот, апусціўшы галаву, Качан стаяў і думаў.

— Здароў, Качан, што нос павесіў? — раптам прагрымеў над яго вухам чыйсьці бас.

Качан падняў галаву і пазнаў свайго сябрука — Гарбуза, з якім некалі разам у экспедытарах хадзілі.

— Ат, звольніўся, работу шукаю.

— Знайшоў?

— Дзе ты тут знойдзеш! Ведаюць, як аблупленага!

— Ты па ўласным?

— А то як жа!

— І характарыстыка ёсць?

— Яшчэ якая!

— Тады не бядуй! Ідзі, брат, назад, у сваю кантору.

— Што? Вярнуцца?

— Але, вярніся. Скажы, што перадумаў.

— Не возьмуць! Я там такіх дроў наламаў...

— А не возьмуць, дык ты ў суд! З характарыстыкай... Клянуся бутэлькай — прымуць!

Гарбуз не памыліўся. Суд прымусіў дырэктара рамканторы прыняць на работу Качана як аднаго з лепшых работнікаў, кіруючыся характарыстыкай, падпісанай самім дырэктарам.

## МІМАХОДЗЬ

Уладзімір КУЧАРАЎ

*Толькі нарад можна атрымаць без чаргі.*

□

*Думаў ён на хаду, а хадзіў вельмі мала.*

□

*Віншуючы сябра з наваселлем, не забудзь пажадаць яму добрых суседзяў. Асабліва над галавой.*

□

*Падхалім пакутваў ад таго, што пасяліўся вышэй за свайго начальніка.*

□

*Не сапсаваўшы справы, майстрам не будзеш, — кажа прымаўка. Ён сапсаваў шмат, але майстрам чамусьці так і не стаў.*

Віктар ШАЎЧЭНКА

*Любіў праўду. Калі яго абвінавацілі ў крадзяжы трох коп калгаснай саломы, ён з абурэннем даказваў, што ўкраў не тры, а чатыры.*

□

*Верыў у забабоны. Асабліва палохаўся лічбы 13. Але паспрабуйце не даць яму трынаццатай зарплаты...*

□

*Кіно не любіла. Там адразу тушылі святло і нельга было разгледзець, хто як апрануты.*

Уладзімір РУДЗІНСКІ

*Паказаць свае козыры — не абавязкова паказаць карты.*

□

*Ён заўсёды хадзіў пешшу — не хацеў, каб яму ўстаўлялі палкі ў колы.*

□

*Лунаць у паднябессі могуць не толькі лётчыкі.*

□

*Здараецца, што і безгаловыя губляюць галаву.*

□

*Зоркі і тыя падаюць...*

Браты БАРОЎКІ

## ЖАРТАЎЛІВЫЯ ДЫЯЛОГІ

**— Як там твая дача?**

**— Нічога сабе. Салаўі спяваюць.**

**— Але ж салаўінымі песнямі сыты не будзеш.**

**— А я за іх грошы бяру.**

□

**— Дзе твой дзённік, Вовачка?**

**— Яго ў мяне букініст купіў.**

□

**— Добры дзень вам, цётка Ганна!**

**— Ты не п'яны?**

**— Не, не п'яны.**

**— Адыдзіся ж ад паркану.**

**— Не пускае, цётка Ганна!**

Віктар АРДАЎ

**Ва «Узорах красамоўства» Віктара Ардава для штатных і нештатных прамоўцаў дадзены і прыклады двух прамоў на тэатральныя тэмы. Адну гаворыць дырэктар тэатра, а другую — загадчык тэатральнага буфета на абмеркаванні спектакля. Яны вартыя таго, каб яшчэ раз выслухаць, а то і прыслухацца.**

## ПРАМОВА ТЭАТРАЛЬНАГА ДЫРЭКТАРА

— Паважаныя таварышы гледачы! Ад імя кіраўніцтва Васемнаццатага дзяржаўнага перасоўнага стацыянарнага раённага тэатра, як дырэктар гэтага тэатра, павінен перад тым, як паказаць вам наш бліскучы спектакль, сказаць некалькі слоў, якія памогуць і вам лічыць гэты спектакль напраўду бліскучым.

Наш тэатр, стоячы адною нагою на пазіцыях высокага зместу, другою нагою вітае высокую форму. Наогул, таварышы, у мяне няма слоў, каб расказаць вам, які цудоўны гэта тэатр, якім я кірую... Хаця не, для гэтага ў мяне ёсць словы, а вось для чаго ў мяне няма слоў — дык гэта для таго, каб пагаварыць аб недахопах нашага тэатра. І няхай вас гэта не здзіўляе. Цяпер жа завядзёнка такая, што кожны хваліць сябе і сваю работу, бо ведае, што іншыя толькі ганьбуюць і бэсцяць. Калі сам сябе не пахваліш, то больш хваліць і няма каму.

Наш тэатр заўсёды імкнуўся даць гледачам бадзёрую зарадку. І нам гэта амаль заўсёды ўдаецца. Так, напрыклад, на папярэдняй пастаноўцы зарадка ў нас была такая моцная, што гледачы зарадзіліся ўжо да канца другога акта. З крыкамі «даволі» яны кінуліся ў гардэроб, да касы, на вуліцу, і там ужо адбылася масавая разрадка ад нашай зарадкі.

Сёння вы таксама атрымаеце зарадку з дапамогай адной п'есы. Толькі шкадую, што я, як дырэктар, заняты тэрміновай работаю па кіраўніцтве нашым тэатрам, не меў часу давядацца і запомніць, як называецца гэта п'еса і хто аўтар.

Але што я, са свайго боку, магу сказаць пра гэтую п'есу? Я магу сказаць толькі добрае, таму што, калі мы прымалі і рэпеціравалі гэту п'есу, я пра яе гаварыў столькі кепскага, што больш ужо мне няма чаго такога гаварыць пра яе. Але вы самі, таварышы, мабыць, ведаеце, што зараз у тэатры галоўнае не п'еса, а галоўнае — фармалізм і натуралізм. І мы зараз гэтым толькі і займаемся — фармалізмам і натуралізмам... Гэта значыць, каб іх не было.

Ну-с... У гэтай п'есе выводзіцца адзін фараон... ці цар... Карацей — шах. Трэба прама сказаць, што гэты шах — не наш чалавек. Потым ёсць яшчэ там адзін жрэц, служка культу — таксама не наш чалавек, хоць у выніку работы з аўтарам мы яго наблізілі да сучаснасці. Астатнія дзейныя асобы — яны таксама не нашы людзі, але мы іх завастрылі.

Вось прыкладна ўсё, што я хацеў сказаць. Але, на жаль, важна не тое, што я гавару, а тое, што скажа масавы глядач. Нядаўна яшчэ было так цудоўна ўстроена, што білеты на спектакль куплялі адны, а глядзець прыходзілі іншыя. Цяпер стварылася проста ненармальнае становішча: білеты купляюць і глядзяць тыя ж самыя людзі. Зразумела, страты ад гэтага надзвычай вялікія. Не, не ў нас — што вы! Да нас народ валам валіць. Нават двума валамі. Адзін вал на спектакль, а другі тут жа назад... І чамусьці гэтае ненармальнае становішча называецца «праверка рублём». А пазаўчора ў нас збор быў семдзесят пяць капеек. Дык, выходзіць, нават не рублём, а сямюдзесяццю пяццю капейкамі праверка... Наогул, ведаеце, так цяжка, так цяжка цяпер быць тэатральным дырэктарам!.. Міністэрства культуры патрабуе, прафсаюз работнікаў культуры шчыпае, міліцыя штрафуе, пажарная ахова і тая ўмешваецца!..

Вось прыкладна ўсё, што я хацеў сказаць, і я спадзяюся, што вы поўнасцю ацэніце тое высокае майстэрства, тую ідэйную завостранасць, якую мы ўклалі ў гэты спектакль, як кажуць, з апошніх сіл. Прывет!

## ПРАМОВА ЗАГАДЧЫКА ТЭАТРАЛЬНАГА БУФЕТА

— Дазвольце мне ад імя нашай гандлёвай кропкі, так сказаць, павіншаваць. Мы вельмі рады, што пры нашым буфеце такі арганізаваўся сімпатычны тэатр. І асартымент у вас, ну, праграма, ці як там кажуць, «нумары», зусім, так сказаць, у адпаведнасці з прэйскурантам.

Ну, а цяпер я хачу задаць пытанне: як яно далей будзе з кладоўкай?.. Так, так, звычайная, ведаеце, кладоўка, дзе прадукты... Не, прашу прабачэння, я вас не перабіваў, не?.. Ну дык вось... Прадукт у нас для буфета завозіцца штодзень. І як, напрыклад, антракт, то гледачы зараз жа і кідаюцца. Куды? Зразумела, да нашай стойкі. Гэтак і сёння было... Я сам наглядаў: вунь тая грамадзянка з чацвёртага раду з'ела два пірожныя. Пры ёй таварыш, што сядзіць ад яе збоку, дазволіў сабе бутэльку піва плюс бутэрброд з капчонаю кілбасою. Так?.. А ведаеце, чым гэта пагражае пры нашай кладоўцы?! Не, гэта я адзін ведаю!.. Больш таго, вунь з краю сядзіць таварыш, які нават з'еў порцыю сяўругі. А як я магу паручыцца за гэтую сяўругу?! Цяпер, хіба, толькі ўскрыўшы чалавека, можна даведацца, ці была свежая тая сяўруга!.. Прабачце, я вас не перабіваў? Так? Ну і... Пра розныя пастановачкі, «нумары» гэтыя ўсе вы ўмееце парассусольваць, а пад носам у сябе нічога не бачыце!.. А санінспекцыя і зноў жа гандлёвы аддзел, яны, ведаеце, з каго патрабуюць? Выключна з мяне! Я ўжо два разы штраф плаціў, і дурняў больш няма! Калі прадукты і далей будуць тухнуць такімі тэмпамі, то, ведаеце, куды за гэта можна трапіць?! Во-во... Няхай тады вашы артысты адказваюць за ўсушку, за ўцечку і ўтух! А я для вас дурня корчыць больш не збіраюся. Вось так! Ясна?

Пераклад з рускай
П. МІСЬКО.

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР Минск.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Індэкс 63856 АТ 08798

Адрас рэдакцыі: Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі—33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара—33-25-25, адказнага сакратара — 33-44-04, аддзела літаратуры—33-22-04, аддзела тэатра, кіно і музыкі—33-24-62, аддзела выяўленчага мастацтва, архітэктуры і вытворчай эстэтыкі — 33-24-62, аддзела публіцыстыкі — 33-24-62, аддзела культуры—33-21-53, выдавецтва —32-22-19, бухгалтэрыі—32-15-87.

Рукапісаў рэдакцыя не вяртае.

Галоўны рэдактар Л. Я. ПРОКША.